**◆ Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі ◆**

 **СВЕТ**  **БССР**  **ПОЛЬШЧА**  **ВАЯВОДСТВА**

## СВЕТ

### XXVI СЕСІЯ ААН

21 верасня ў Нью-Йорку адкрылася XXVI сесія Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Сесія, якая працягнецца да 21 снежня, абяцае быць вельмі напружанай. У яе парадку дня 109 пытанняў. Гэта самы вялікі парадак дня за гісторыю Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Пры ўсім мностве праблем галоўнымі з іх, як і раней, застаюцца пытанні ўмацавання міру і міжнароднай бяспекі. На гэту цэнтральную задачу Арганізацыі Аб'яднаных Нацый звярнуў ўвагу генеральны сакратар ААН У Тан у сваім уступным дакладзе да агляду дзейнасці Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Як і ў мінулым, ініцыятарам важнейшых прапаноў, накіраваных на далейшае ўмацаванне міжнароднай бяспекі, у гэтым годзе зноў выступіць Савецкі Саюз і іншыя сацыялістычныя краіны.

Чакаецца вялікая дыскусія па пытанню прадстаўніцтва КНР у ААН. У гэтым годзе Злучаныя Штаты ўпершыню адмовіліся ад адкрытага супраціўлення аднаўлення законных правоў гэтай краіны ў ААН. Адначасова ЗША спрабуюць навязаць сесіі ідэі аб так званым двайным прадстаўніцтве Кітая, настойваючы на захаванні ў ААН чанкайшыстаў. Што датычыць сацыялістычных краін, то яны, як вядома паслядоўна і прынцыпова выступаюць за аднаўленне законных правоў КНР ў ААН і выгнанне з міжнароднай арганізацыі чанкайшыстаў.

### ВЫСТУПЛЕННЕ В. БРАНТА

Выступаючы на сумесным пасяджэнні праўлення СДПГ і праўлення фракцыі ў бундэстагу, В. Брант даў высокую ацэнку вынікам сустрэчы ў Крыме з Л. Брэжневым.

Паляпшэнне адносін паміж абедзвюма дзяржавамі, заявіў ён, пачалося ўжо, і яно будзе працягвацца, хоць дагавор паміж ФРГ і СССР яшчэ не ратыфікаваны. У гэтай сувязі канцлер адзначыў вялікае значэнне ратыфікацыі гэтага дагавору.

В. Брант сказаў, што ў час сустрэчы ў Крыме была дасягнута дагаворанасць аб заключэнні новых пагадненняў паміж абедзвюма краінамі: пагадненне аб паветраных зносінах, гандлёвага дагавору, пагадненне аб навукова-тэхнічным абмене, аб развіцці культурных і спартыўных сувязей, а таксама аб абмене паміж маладзёжнымі арганізацыямі.

### ГРЫЗНЯ

Віцэ-прэзідэнт марыянетачнага паўднёвав'етнамскага рэжыму Нгуен Као Кі ў інтэрв'ю амерыканскаму тэлебачанню заявіў, што яму вядома аб планах замаху на яго жыццё.

У гэтым жа інтэрв'ю Као Кі прызнаў, што паміж ім і прэзідэнтам Нгуен Ван Тхіеу існуюць разнагалоссі. Калі Тхіеу, заявіў Кі, «паспрабуе загнаць мяне ў куток, ужыве сілу, то выбару не будзе, і на сілу я адкажу сілай». Кі таксама сказаў, што Тхіеу так апасаецца за сваю бяспеку, што рэдка спіць у прэзідэнцкім палацы ў адным і тым жа памяшканні дзве ночы запар. (А. К.)

## БССР

### НА МАЗЫРСКАЙ НАФТАБУДОВЕ

Паспяхова здзяйсняецца пабудова мазырскага нафтаперапрацоўчага завода, сыравінай для якога будзе багатая беларуская нафта. Зараз будаўнікі мантуюць падсобныя памяшканні, адміністрацыйны корпус і палігон для вырабу жалезабетонных канструкцый. Яны асабліва павысілі прадукцыйнасць сваёй працы ў час ударнай перадкастрычніцкай вахты.

### УБОРКА БУЛЬБЫ

Сёлета ў Беларусі пад бульбай занята амаль 500 тысяч гектараў. Каб дапамагчы працаўнікам калгасаў і саўгасаў у гэтай цяжкай працы, пастаўлена ў іх распараджэнне на 1700 бульбяных камбайнаў больш, чым іх было ў мінулым годзе. Апрача гэтага, да ўборкі бульбы наладжана звыш 15 тысяч трактарных капалак.

### КАБ БОЛЬШ БЫЛО МЯСА

Пад Мінскам у саўгасе імя Ульянава будуюць вялікую свінагадоўчую ферму на 8 тысяч галоў.

### СЯБРОЎСТВА МОЛАДЗІ

У Мінску гасціла дэлегацыя Венгерскага камуністычнага саюза моладзі на чале з загадчыкам аддзела рабочай моладзі Цэнтральнага Камітэта ВКСМ Андраішам Керы. Венгерскія госці сустрэліся з І сакратаром Цэнтральнага Камітэта Ленінскага камуністычнага саюза моладзі Беларусі У. І. Падрэзам, былі прыняты ў Цэнтральным Камітэце КПБ, наведалі школы і прадпрыемствы, пабывалі ў Хатыні.

### З АФРЫКІ

На сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі гастраліраваў экзатычны, негрыцянскі ансамбль песні і танца з Сьера Леоне. Афрыканскія артысты і мінская публіка былі вельмі задаволены з гэтай сустрэчы.

### ГРОДЗЕНСКІ ТЭАТР

Гродзенскі абласны драматычны тэатр 2 кастрычніка распачынае свой юбілейны, 25-ты сезон творчай дзейнасці. У гэтым сезоне на афішах тэатра знойдуцца, між іншым, наступныя п'есы: «Пад зорамі» — па матывах вядомага рамана Піліпа Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах» і К. Сіманава «Рускае пытанне».

### ПАМЁР А. АЛЕШКА

Антон Алешка сваю літаратурную біяграфію распачаў у 1932 годзе, калі часопіс «Беларусь калгасная» надрукаваў яго апавяданне «Песня восені». Затым з-пад пяра пісьменніка выйшлі кнігі: «Маладосць», «Раніца», «Іх першыя вітае сонца», «Пяць сутак», «Над намі мільён вышыні», «Дарогі без следу». Па прафесіі быў ён ваенным лекарам. Шмат гадоў праслужыў у авіяцыі. Таму найбольш месца ў сваёй творчасці адвёў ён геройскім подзвігам савецкіх лётчыкаў. Памёр пасля цяжкай і працяглай хваробы на 58 годзе жыцця. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### ВІЗІТ Э. ГЕРКА

25 верасня г.г. І сакратар ЦК ПАРП К. Герэк наведаў Келецкае ваяводства. Правёў ён сустрэчу з актывам фабрыкі грузавікоў у Старахавіцах, якая зараз грунтоўна мадэрнізуецца. І сакратару ЦК ПАРП былі паказаны ўсе новыя прататыпы грузавікоў, у тым ліку «Стар-224» і «Стар-226». Затым Э. Герэк наведаў металургічны завод імя Навоткі ў Остроўцу Свентакшыскім і прадпрыемства гіпсавай прамысловасці «Даліна Ніды» ў Гацках каля Пінчова. Прадпрыемства ў Гацках мае магчымасці павялічыць прадукцыю гіпсу на 160 тысяч тон у год.

І сакратар ЦК ПАРП цікавіўся ўмовамі працы калектываў і перспектывамі развіцця прадпрыемстваў. Звярнуў ён увагу на патрэбу комплекснага вырашэння праблемы шырэйшага выкарыстоўвання гіпсу ў будаўніцтве.

### ЛЕПШАЕ ЗАБЕСПЯЧЭННЕ

Міністр унутранага гандлю Эдвард Шнайдэр заявіў, што ў апошнім квартале гэтага года на спажывецкім рынку будзе 18 працэнтаў мяса і мясных вырабаў больш, чымсьці было ў той самы час у мінулым годзе. Нягледзячы на значнае павелічэнне мясных вырабаў, рынак не будзе поўнасцю забяспечаны. Таму будзе павялічаны продаж рыбы і курацін, а таксама маргарыны «Мая».

Калі гаварыць аб забеспячэнні вясковага рынку будаўнічымі матэрыяламі, дык наглядаецца недахоп цэменту, этэрніту, металургічных вырабаў і г.д. З-за таго, што запатрабаванне на гэтага роду вырабы вялікае, Палітбюро дало ўказанне ўраду, каб той зрабіў захады адносна дадатковага павелічэння тых вырабаў яшчэ ў бягучым годзе. Неабходна таксама палепшыць дзейнасць гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў, а таксама формы іх узаемнага супрацоўніцтва. Гандаль павінен купляць тавары адпаведнай якасці і перш за ўсё такія, на якія ўтрымоўваецца запатрабаванне. Рада Міністраў забавязала Ваяводскія рады нарадовыя да прааналізавання дзейнасці крамаў і пунктаў паслуг у ваяводствах і пашукаць спосабаў на лепшае забеспячэнне пакупнікаў. На заканчэнне міністр Э. Шнайдэр праінфармаваў аб тым, што ў першай палавіне снежня г.г. будзе разгледжана справа забеспячэння рынку ў будучым годзе. Асабліва звернута будзе ўвага на такія пачынанні, якія будуць садзейнічаць трываламу паляпшэнню на рынку.

### «ВАРШАЎСКАЯ ВОСЕНЬ»

У Варшаве закончыўся традыцыйны 15 міжнародны фестываль сучаснай музыкі «Варшаўская восень». У яго праграме было выканана больш 70 музычных твораў. У фестывалі прымалі ўдзел многія сімфанічныя аркестры і оперныя калектывы. Сярод гасцей — камерны аркестр Літоўскай філармоніі, Дрэздэнская дзяржаўная капела, румынская «Музыка нова», чэхаславацкі калектыў і іншыя. (яц)

## ВАЯВОДСТВА

### СУСТРЭЧА БУДАЎНІКОЎ

На днях адбылася сустрэча працаўнікоў будаўніцтва з І сакратаром ВК партыі, паслом А. Лашэвічам і раднымі МРН. На сустрэчы прысутнічалі старшыня прэзідыума МРН З. Безубік, сакратар гарадскога камітэта Т. Матусік, намеснік старшыні прэзідыума МРН Ю. Крэтовіч і старшыня камісіі будаўніцтва МРН І. Собчык.

У размове было падкрэслена, што за мінулыя два гады ў горадзе было аддадзена ў карыстанне шэраг прамысловых аб'ектаў, у выніку чаго было створана 5 тыс. новых месц для працы. У жыллёвым будаўніцтве збудавана было 3 тыс. памяшканняў, і дзякуючы гэтаму 60% беластачан жыве ўжо ў новых будынках. Шмат зроблена было і ў камунальнай гаспадарцы горада. На наступныя два гады (1971—72) плануецца аддаць у карыстанне 3600 памяшканняў, г.зн. на 600 памяшканняў больш, чым за папярэднія два гады.

### ГОСЦЬ З ГРОДНА

У мінулым тыдні на Беласточчыне прабываў галоўны рэдактар «Гродзенскай праўды» тав. Аляксандр Богуш. Госць пазнаёміўся з Беластокам, наведаў Бельск, Гайнаўку і Белавежу. Пабываў тав. А. Богуш у Варшаве.

На заканчэнне візіту госць з Савецкай Беларусі сустрэўся ў Ваяводскім камітэце партыі з тав. Ул. Юшкевічам, дзе было абмеркавана шэраг спраў, якія цікавілі як гродзенскіх, так і беластоцкіх журналістаў.

### НАРАДА САКРАТАРОЎ

21 верасня ў Ваяводскім камітэце партыі адбылася нарада сакратароў прапаганды павятовых камітэтаў. Прысвечана яна была абмяркоўцы заданняў партыйнай прапаганды ў перадз'ездаўскай кампаніі. На нарадзе сакратар ВК тав. Ул. Юшкевіч звярнуў увагу на тое, каб так званыя арганізацыйна-тэхнічныя справы не засланілі сабой сутнасць самой дыскусіі і каб перадз'ездаўская дыскусія будзіла і актывізавала членаў партыі і беспартыйных. Неабходна ўсіх пазнаёміць з дырэктывамі з'езда і стварыць адпаведныя ўмовы для спакойнай, але канкрэтнай дыскусіі.

### ЭКАНАМІСТЫ Ў ДЫСКУСІІ

Члены беластоцкага аддзела Польскага эканамічнага таварыства, уключаючыся ў перадз'ездаўскую дыскусію, склалі праграму прац, у якіх яны хочуць адказаць на пытанне: што і як можна палепшыць на сваім прадпрыемстве і ва ўсёй сваёй галіне прамысловасці. У сярэдзіне кастрычніка эканамісты плануюць правесці праблемныя дыскусіі ў розных галінах прамысловасці.

### НОВЫ ГОД ПРАЦЫ

У мінулую нядзелю з нагоды адкрыцця новага года гарцэрскай працы адбылася сустрэча інструктароў гарцэрства з сакратаром ВК партыі Ул. Юшкевічам, намеснікам старшыні прэзідыума ВРН Р. Лазаровічам і куратарам беластоцкай школьнай акругі Э. Крынскім.

На сустрэчы былі ўручаны заслужаным дзеячам гарцэрства высокія дзяржаўныя ўзнагароды. (яч)




**Niedziela 3.X.**

7.45 Program dnia. 7.50 TV Kurs Rolniczy: „Parowanie ziemniaków". 8.25 „Przypominamy, radzimy". 8.35 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 TV Klub Śmiałych. 9.55 „Na lotnisku" — rep. z pokazów lotniczych i szybowcowych. 10.45 „Kuba" cz. I — rep. („W cztery świata strony"). 11.25 Sprawozdanie z międzynarodowych mistrzostw w tenisie stołowym (Wrocław). 12.15 Dziennik. 12.30 Gra Orkiestra TV Katowice. 12.50 „W obiektywie". 13.25 „Przemiany". 13.55 PKF. 14.05 Sprawozdanie z finałów Mistrzostw Polski na żużlu (Rybnik). 15.30 Dla dzieci. 16.20 TV Spotkania Teatralne: Z. Nałkowska — „Granica". 18.10 „Nie wierzcie pogodzie" — ballady Bułata Okudżawy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Panna z dziećmi" — film fab. czechosł. 21.30 Magazyn sportowy. 22.00 Estrada Literacka: J. St. Sito — „Mów z nią domowym nie przewoźnym rymem".

**Poniedziałek 4. X.**

15.20 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 18.00 „Kino Filmów Animowanych". 18.30 „W Sajnach" — film radz. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: J. Słowacki — „Fantazy". 22.10 Dziennik. 22.25 Program rozrywkowy.

**Wtorek 5.X.**

10.00 „Powszednie dni" — film fab. NRD cz. II. 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — B. Brecht — „Matka Courage i jej dzieci". 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Uszlachetnianie pasz". 15.20 i 22.30 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Była susza i co dalej...". 17.10 „Oferty". 17.25 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Powszednie dni" — film fab. NRD cz. II. 21.10 „Kontakty". 21.40 „Siedmiu młodych" — program rozr. jug. 22.10 Dziennik.

**Środa 6.X.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Pierwsze lata niepodległego bytu". 10.30 „Stracone złudzenia" — film franc. cz. IV. 13.40 „Wybieramy zawód". 15.20 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Klub Kluczników", „Galeria na medal", Zrób to sam". 17.30 „Stocznia nad Wisłą". 18.00 „Rośliny żyją" („Poznajemy przyrodę") odc. I. 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.35 Wszechnica TV: „Sztuka liczenia". 19.10 Przemówienie Ambasadora Niemieckiej Republiki Demokratycznej z okazji święta narodowego NRD. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Stracone złudzenia" — film franc. 21.00 „Światowid". 21.30 PKF. 21.40 „Wizyta u pani Ewy". 22.35 Dziennik.

**Czwartek 7.X.**

8.15 Matematyka w szkole: „Problemowe wprowadzenie pojęć matematycznych" cz. I. 10.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — „Tetmajer—Kasprowicz—Staff". 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — „Bertolt Brecht". 12.45 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — „Jan Kochanowski". 15.20 i 22.30 Politechnika TV I roku. Geometria wykreślna. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 Magazyn ITP. 18.00 „Jantarowy kwiat" — program muzyczny. 18.30 TV Kurier Białostocki. 18.45 „Kibice postępu". 19.15 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Autokarem przez noc" — film fab. jap. 21.05 „Ziemi nie przypisany" — rep. 21.35 Recital piosenkarski Leszka Długosza. 22.05 Dziennik.

**Piątek 8.X.**

8.00 TV Kurs Rolniczy: „Analiza wyników rozwoju produkcji rolnej w gromadzie" cz. II. 9.00 Dla szkół: (kl. VII) Zajęcia techniczne — „Metale". 10.00 „Autokarem przez noc. — film fab. jap. 12.45 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — „Tetmajer—Kasprowicz—Staff". 15.20 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora". 17.35 „Nie tylko dla pań". 17.55 „Za kierownicą". 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.40 „Szymon Kobyliński jako taki". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Aktorka" — film TVP z c. „Klasyka światowa". 20.30 „Kraj". 21.10 Teatr TV: „Listy Stanisławy Przybyszewskiej". 22.30 Dziennik.

**Sobota 9.X.**

8.25 „Cierpienia młodego Bohaczka" — film fab. czechosł. 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Okres węglowy Polski". 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku — „Postawa". 11.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — „Tetmajer—Kasprowicz—Staff". 12.45 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Siły i maszyny". 15.50 Program dnia. 15.55 Program I proponuje. 16.15 Redakcja szkolna zapowiada. 16.30 Dziennik. 16.40 Teatr Młodego Widza: J. Domagalik — „Anka". 17.20 Przegląd wydawnictw. 17.40 „Z kamerą wśród zwierząt". 18.15 „List z Majorki" — program muz. rozr. 18.35 „Pegaz" 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Muzyka lekka, łatwa i przyjemna". 21.20 Dziennik TV i Wiadomości sportowe. 21.40 „Cierpienia młodego Bohaczka" — film. fab. czechosłowacki. 23.10 „Bez przerywników" — śpiewa Georgio Gaber.




**Piątek, 1 października**

8.05 Dla dzieci. 8.15 Film dla dzieci. 8.45 Moja pięciolatka. 9.00 Poznajcie się. 10.00 Nowiny. 14.15 Program dnia. 14.20 Nowiny. 15.15 Dla uczniów. 15.35 Panorama nowin. 16.10 Film animowany dla dzieci. 17.00 Hokej. „Chimik" (Woskresieńsk) — CSKA. 19.15 Czas. 19.45 Koncert orkiestry im. Osipowa. 20.45 Finał mistrzostw Europy w siatkówce. Transmisja z Włoch.

**Sobota, 2 października**

7.45 Koncert. 8.30 Dla dzieci. 9.00 Ekran zbiera przyjaciół. 10.30 Przegląd międzynarodowy. 11.20 Republikański festiwal twórczości ludowej. 12.50 Dla uczniów. 13.50 W świecie zwierząt. 15.00 Piłka nożna. „Torpedo" (Moskwa) — „Dynamo" (Kijów). 16.45 Szkatułka muzyczna. 17.00 Uroczyste otwarcie IV wszechzwiązkowego festiwalu filmów TV. 17.30 Koncert. 18.20 Czas. 18.50 Film fab. 20.40 Śpiewa S. Daniluk.

**Niedziela, 3 października**

8.00 Kiosk muzyczny. 8.30 Dziś — Dzień Nauczyciela. 9.00 Koncert dla nauczycieli. 9.40 Poezja. 10.00 Spektakl TV. 11.00 Dla żołnierzy. 12.00 Dla uczniów. 13.15 Uniwersytet TV. 14.00 Piłka nożna. „Spartak" (Moskwa) — „Dynamo" (Mińsk). 14.45 Film animowany. 15.00 Klub filmowy. 16.00 Nowiny. 16.10 Spotkanie muzyczne. 16.50 Program międzynarodowy. 17.20 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Spotkanie na Dnieprze. 20.10 Koncert życzeń. 20.50 Kronika festiwalu filmów TV. 21.05 Nowiny.

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 154

МІХАСЬ КРАСОЎСКІ




Нарадзіўся я і правёў сваё дзяцінства на Беласточчыне, ў невялічкай вёсцы, што ляжыць на старым тракце. Праходзіў ён цераз недалёка паложанае ад нашай вёскі, нават рухлівае як на тыя часы, мястэчка, заселенае некалькі тысячамі жыхароў, пераважна яўрэяў-гандляроў, рамеснікаў, а нават уласнікоў каля дзесятка гарбарняў і рэзняў. Таму-то праезных цераз нашую вёску людзей ніколі не бракавала. А мяне якраз і займалі праезныя, што гутарылі на незразумелай мове: яўрэі або цыганы.

На месяц раз з ранняй вясны да позняй восені, праходзіў цераз вёску ў бліскучых чобатах, кароткай куртцы, зялёным капелюшы, з раменнай торбай на раменным паску цераз плячо зграбны венгерац Франко. Гучаў ён голасна адно і тое ж слова — «Каструваць!»

Франко быў заўсёды пажаданай і шанаванай сялянамі асобай, бо апрача яго навокал не было ветэрынараў. Элегантны ж венгерац быў умелым ветэрынарам дый прылюдным у абходзінах з людзьмі чалавекам. Умеў ён гутарыць на польскай мове столькі, колькі трэба было, каб дагаварыцца з сялянамі. Рэшту ж гаварыў як да людзей, так і сам да сябе на нікому незразумелай венгерскай мове. І да таго так заразліва рагатаў, што рагаталі ўсе яго слухачы, ні ў зуб не разумеючы, з чаго смяюцца.

— Агонь яго знае, — раз сказаў дзядзька Анупрэй, — можа ён і непрыстойнымі словамі абзывае нас, а мы смяемся бы дурні...

Любілі Франка і мы, усе дзеці, хоць і трымаліся ад яго на бяспечнай адлегласці. Найасаблівей мы, хлапчукі, бо ён калі-некалі, паварочваўся ў наш бок, тыкнуўшы пальцам сабе між ног, гаварыў, што зробіць нам «чык-чык».

Я заўсёды дакучаў маці допытамі, чаму гэтыя людзі: яўрэі, цыганы і венгерац Франко, — гутараць на такой незразумелай мове. А маці мне на гэта адказвала адно і тое ж: яўрэі гергочуць па-яўрэйску, бо яны яўрэі; цыганы лапочуць па-цыганску, бо яны цыганы, а Франко шваргоча па-венгерску, бо ён венгерац.

— А мы па-якому гутарым?

— Папросту, — усё адказвала маці, — бо мы людзі прастыя.

— Як то, — гавару, — «прастыя»? А чаму? Баба Балдоха сагнёна зусім, якая ж яна простая? Або бабка Керта — зусім скасабочана. Ці Дзяніска гарбаты...

— Бо яны калекі. А калекі бываюць ва ўсіх народаў. І адчапіся, змілуйся, ад мяне. Не дакучай мне сваімі допытамі, бо лазой адхварашчу...

Так я застаўся між простымі аднавяскоўцамі простым да дзесяцігадовага ўзросту, калі стаў вучнем трэцяга класа начальнага вучылішча, у якім ужо былі ўрокі геаграфіі і гісторыі.

На ўроку я даведаўся, што Гродзенская губерня, а значыць і Беласточчына, дзе знаходзіцца наша вёска, заселены, апрача літоўцаў і яўрэяў, беларусамі — рускім племем, мова якога розніцца ад чыста рускай прымессю польскіх слоў. Беларусамі яны называюцца таму, што маюць у вялікай павазе бела-русыя валасы, а ўсе носяць вопратку белую, ад кашулі пачаўшы і на свіце скончыўшы.

У тым часе і ў нашай ваколіцы вопратка ва ўсіх сялян была белая. І тут у мяне з'явілася здагадка: ці мы прастыя людзі і не ёсць часам гэтымі самымі беларусамі? Хто ж выясніць мне гэта? І я надумаўся звярнуцца да свайго бацькі.

Мой бацька, маючы зусім мала зямлі і вялікую сям'ю, увесь час круціўся па заробках. Бывала, што і па некалькі тыдняў не начаваў дома. Як і прыходзіў дахаты, то спяшаўся зрабіць як найхутчэй залеглую работу на гаспадарцы. Ніколі не меў часу заняцца дзецьмі, усё прыхваткамі абменьваўся з намі пару словамі. Я, аднак, дапільнаваў яго ў вольную хвіліну:

— Тату, ці мы, людзі простыя, і не ёсць часам беларусы?

— Вядома — беларусы, — кажа бацька. — І наша мова, як яе завуць простай, і ёсць беларуская. Вось служыў я ў салдатах аж у Магілёўскай губерні, то і там усе гутараць на гэтай жа мове простай, як і мы.

— А чаму нас, беларусаў, вучаць на рускай, а не на сваёй роднай мове?

— А гэта таму, што рускі цар-гасудар валодае намі.

— А ці ў беларусаў быў калі свой цар беларускі з беларусаў-беларус?

— Вось гэтага, сынок, я нідзе ні ад каго не чуў, каб цар быў беларускі з беларусаў. Ды мне думаецца, што з беларуса не можа быць цара, бо наш беларускі народ увесь сялянскі. Бедны ён і цёмны, нявучаны. Цары ж ды каралі заўсёды паходзяць з багацеяў. Натурай наш брат-беларус не падыходзіць да гэтакай вакансіі. Занадта ён справядлівы, мяккасардэчны. А цар — тым ён і цар, што мае сэрца цвёрдае, як камень. З натуры ён жорсткі, нячулы на жаль і слёзы людскія, ані на...

І бацька раптам змоўк, гледзячы мне проста ў вочы, як бы першы раз мяне бачыў. Я не вытрымаў гэтага погляду і адвёў свае вочы ўбок.

— Аднак ты, сынок, хоць і малы яшчэ, але не дурань. Ды гутарыць аб гэтай цацы небяспечна. Можна без часу-пары загінуць. Вырасцеш — даведаешся аб усім сам. Ты ж ужо пісьменны.

З. СТАСЬКЕВІЧ




Жарам гаркім палае зямля,
Бы юнацкае сэрца звонкае,
Калі зловіць першае шчасце.
Раскацілася сіняе неба
У залацістым заліве сонца.
Закрасавала шчодрая багіня
Зялёнай руннюнад блакітным
парасонам,
Золатам сонца ад вякоў па ныне,
Расцалаваная зямля —
Санта Мадонна.
Зліўшы душы з вірам жыцця,
Ідуць тыя, хто хоча піць роскаш
бясконца.
Дарма ловіш шорахі ветру,
У цішыні беззаганнай, гарачай,
Толькі сэрца парыўна б'ецца
Сэрца любіць...
Любіць...
Няйначай...

* ✲ *

*На алавяным, шэрым небе згаслі зоры.*
*Асірацілі месяц доўгарогі.*
*Дзень шумнацечны*
*Штохвіліну набліжаўся на парогі.*
*А мы з табой — чаромуха — не спалі,*
*Мы — ноч кахалі.*
*Кахалі запах чыстага паветра,*
*Мігценне зор,*
*Кахалі шорах ветру ў тваіх кветках*
*І рос прастор,*
*І цішыню на вуліцы кахалі,*
*Бо толькі мы з табой — чаромуха —*
*Не спалі.*

* ✲ *

За воблачнай шырмай
Румяніцца золак.
Заспаная рунь
Затаілася ў росах.
Рукі поўныя — макаў,
Васількі ў косах,
У вачах затапіліся вочы,
Сэрцы запоўніліс кроўю,
А мы — любоўю...
А мы — любоўю...

* ✲ *

*Апусціла лісцё рабіна*
*Па самлелых ад стомы галінах*
*І стаіць у маркоце, паныла,*
*Бы дзяўчына, што шчасце згубіла.*
*Пабляднелі ад сушы каралі,*
*Што красу прыдавалі рабіне,*
*Як бы знятыя болем і жалем*
*Пабялелі вусны дзяўчыне.*
*Апусціла галінкі рабіна*
*І у неба глядзець не стала,*
*Дождж падвёў, бы хлапец дзяўчыну,*
*На якога яна так чакала.*
*Толькі ноч кучаравую рэзвіць —*
*Хоць скупою расою падсыпле —*
*Днём ізноў, у спякоце, гарэзніць*
*Бы дзяўчына, што долі не вып'е.*

ШТО НОВАГА Ў МІНСКУ?

# „АМНІСТЫЯ"

Заўсёды, калі даводзіцца мне бываць у Мінску, пытаю ў сяброў і знаёмых: «Што новага?». Яны ўжо ведаюць, што не цікаўлюся я ў гэтым выпадку навінкамі моды, ды нават і не здзіўляючымі поспехамі мінчан у сучасным будаўніцтве. Цікавяць мяне перш за ўсё культурныя зрухі, тое новае, што дзеецца ў беларускай літаратуры і літаратурнай крытыцы.

— Ідзі на «Амністыю», — сказалі мне ў жніўні аднагалосна і знаёмыя літаратары, і сяброўка-лекар, і сваячка-інжынер. Для чытача неспакушанага растлумачваю: «Амністыя» — гэта апошняя п'еса маладога беларускага драматурга Міколы Матукоўскага, камедыя, якая нарабіла шмат шуму ў Мінску, камедыя, на якую вось ужо цэлы год натоўпамі валіць народ, а каб дастацца на яе прэм'еру, ужо за квартал ад Беларускага драматычнага тэатра, дзе п'еса была пастаўлена, на тралейбусным прыпынку спынялі людзей жадаючыя папасці ў тэатр і пыталі, ці няма лішняга білета.

Вельмі прыемна, што ў беларускую драматургію, (якая, дарэчы, не магла раней пахваліцца надзвычайнымі дасягненнямі) трывала ўваходзяць імёны маладых беларускіх літаратараў.

Калі можна гаварыць аб нейкіх асабістых эмоцыях, што датычаць наогул беларускай літаратуры апошняга часу, дык пасля рамана Івана Мележа «Людзі на балоце» і аповесцей Васіля Быкава, менавіта апошняя п'еса М. Матукоўскага зрабіла на мяне вялікае ўражанне. І здаецца, што неўзабаве побач з партрэтамі вядомых беларускіх аўтараў К. Крапівы, А. Макаёнка, А. Маўзона, І. Мележа, што вісяць у фае Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра паявяцца партрэты і новых, маладых аўтараў, стала і нязменна даючых матэрыял на беларускую сцэну.

П'еса «Амністыя» — гэта не першы драматычны твор Міколы Матукоўскага. Мінскі тэатр юнага гледача, так званы ТЮЗ, ужо выстаўляў яго п'есу «Мужчына, будзь мужчынам», а Магілёўскі рускі драматычны тэатр — п'есу «Три дня и три ночи», якая расказвала аб барацьбе беларускага падполля з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Камедыя «Амністыя» была напісана на конкурс, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна, і атрымала найвышэйшую ўзнагароду. Прэм'ера спектакля адбылася напярэдадні гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Не затрымалася п'еса ў Мінску. Адразу ж паставілі яе ў Гродне, Магілёве, Віцебску. Пераклалі на рускую мову. Выйшла, як кажуць, на шырокія воды. Паставілі ў Ленінградзе, Маскве, Баку, Ташкенце, Бранску і іншых гарадах Савецкага Саюза.

Кожны традыцыйна думаючы чытач нашага артыкула, які не меў магчымасці пазнаёміцца з п'есай, скажа: «Ну і што ж, відаць, п'еса, як і прыстала на такі юбілей, палітычная, магчыма, нават крыху схематычная».

Не, менавіта не. П'еса аб жывых, сённяшніх людзях, аб іх працы і клопатах, аб каханні і шчырасці, аб няшчырасці і хітрасці, аб дурноце і зазнайстве — адным словам смяецца ў сваёй камедыі аўтар і гледачы п'есы разам з ім з усяго наганнага, нізкага, «подленькага», што сядзіць яшчэ недзе далёка ў сярэдзіне чалавека і «не дазваляе крычаць». Не даўжыня спаднічкі, а шчырасць вырашае сёння аб сумленнасці чалавека, гаворыць аўтар. Ніякай паблажкі хуліганам! Не месца ім у радах гегемона, рабочага класа, не для таго рабочы клас змагаўся і перамог, каб талераваць у сваім асяроддзі вырадкаў.

На матэрыяле, так сказаць, прадукцыйным (падзея адбываецца на фабрыцы цацак) аўтар узняў вельмі важныя праблемы сённяшняга дня. Мы не будзем спасылацца на змест п'есы (з ёю можна пазнаёміцца ў чэрвеньскім нумары часопіса «Полымя» за гэты год), адзначым толькі, што Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр у Мінску зрабіў да спектакля дасканалую, сучасную дэкарацыю. Добрае таксама музычнае афармленне.

Аўтар камедыі ўжо працуе над наступнай п'есай. Аб чым будзе яна? — Пакуль сакрэт, — кажа ён. — Тэма аднак сучасная. Будзе гэта драма.

Не сумняваемся аднак, што і гэта п'еса будзе добрай, тым больш, што аўтару, як кажуць, «і козыр у рукі». Ён жа працуе беларускім карэспандэнтам «Известий», сутыкаецца на штодзень з мноствам балючых і добрых спраў, бачыць і ведае жыццё.

Можна толькі цешыцца, што менавіта ў гадавіну вялікага правадыра рабочага класа можна было пагаварыць аб розных балячках жыцця з вялікай шчырасцю.

Гэтага напэўна хацеў бы Ленін.

*Ада Чэчуга*

 

АД НАШАГА КАРЭСПАНДЭНТА




Усе аматары падарожжаў з асаблівай цікавасцю чытаюць артыкулы аб маладых краінах Азіі, Афрыкі і Амерыкі. Я хачу пазнаёміць вас з недалёкай, аднак не менш цікавай краінай.

Такой краінай з'яўляецца Швейцарыя, у якой я пабываў у апошні час і пазнаёміўся з ёй больш падрабязна. Швейцарыя — гэта невялікая краіна з тэрыторыяй 41,3 тыс кв. км і насельніцтвам каля 6.400 тыс. чалавек. Знаходзіцца яна ў акружэнні чатырох еўрапейскіх дзяржаў: ФРГ, Францыі, Аўстрыі, Італіі, ды сярод высокіх горных вяршынь так званых Швейцарскіх Альп. У сувязі з гэтым на тэрыторыі Швейцарыі знаходзіцца шмат азёр. Самае вялікае з іх гэта возера Леман, ля якога ляжыць горад Жэнева, вядомы на ўвесь свет як цэнтр міжнародных арганізацый. Сярод міжнародных арганізацый, што знаходзяцца ў Швейцарыі, першае месца займае Еўрапейскае аддзяленне Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, дзе сярод дэлегацый розных краін, побач з Чэхаславакіяй, Польшчай, ЗША і іншымі дэлегацыямі, прымае ўдзел самастойная дэлегацыя Беларусі.

Датай утварэння Швейцарыі лічыцца 1 жніўня 1291 года. Венскі кангрэс з 1815 г. абвясціў «пастаянны» нейтралітэт гэтай краіны. У 1848 г. была прынята канстытуцыя, якая ператварыла Швейцарыю ў канфедэрацыю. У сувязі з гэтым Швейцарыю называюць федэратыўнай парламентарнай рэспублікай. Заканадаўчая ўлада ў Швейцарыі належыць да Федэральнага сходу (парламента), які складаецца з двух палат: Нацыянальнага савета і Савета кантонаў. Выканаўчую ўладу ажыццяўляе Федэральны савет (урад), які складаецца з 7 федэральных саветнікаў. Прэзідэнтам з'яўляецца шэф урада, які выбіраецца па чарзе з ліку 7 федэральных саветнікаў, тэрмінам на 1 год. Урадавыя рашэнні прымаюцца, як правіла, поўным складам Федэральнага савета.

Уся Швейцарыя дзеліцца на 25 кантонаў і 3095 камун. Кожны кантон мае ўласную канстытуцыю, свае законы, свой парламент, свае суды і свой урад. У пяці кантонах, акрамя таго, кожную вясну збіраюцца сходы ўсіх грамадзян (маючых права выбіраць), мэтай якіх з'яўляецца вырашэнне найбольш важных пытанняў як палітычнага, так і эканамічнага характару. Кантоны, існуючыя да стварэння канфедэрацыі, даручылі федэральнаму ўраду задачы, запісаныя ў федэральнай канстытуцыі, г.зн. знешнюю палітыку, нацыянальную абарону, кіраўніцтва сельскай гаспадаркай, права выпрацоўкі грамадзянскага і карнага кодэксаў.

Заканадаўчыя асамблеі і выканаўчыя саветы камун, арганізаваныя па прыкладу кантанальных, вырашаюць шмат праблем такіх, як пытанні школ, падаткаў будаўніцтва і рамонту дарог, пажарнай аховы і інш.

Дзве палаты парламента Швейцарыі складаюцца з:

— Дзяржаўнага савета (савета кантонаў), з 50 дэпутатаў, прадстаўляючых усе кантоны (па 2 дэлегаты з кантона);

— Нацыянальнага савета, з 200 нацыянальных саветнікаў, выбіраемых па прынцыпу прапарцыянальнага прадстаўніцтва.

Права канчатковага зацвярджэння законаў, прымаемых абедзвюма палатамі, належыць грамадзянам (шляхам рэферэндума) у тым выпадку, калі 30.000 чалавек унясуць запрос аб правядзенні такога рэферэндума. Усе змены канстытуцыі абавязкова патрабуюць адабрэння шляхам рэферэндума.

Прапановы па змене канстытуцыі могуць уносіцца ўрадам альбо па ініцыятыве 50 тысяч грамадзян.

Швейцарыя — гэта шматнацыянальная дзяржава. Не лічачы амаль 800 тысяч іншаземных рабочых, якія часова знаходзяцца на тэрыторыі гэтай краіны — грамадзян Югаславіі, Грэцыі, Іспаніі, Партугаліі, Заходняй Германіі і іншых краін, грамадзяне Швейцарыі гавораць на некалькіх мовах, падзяляючых іх на розныя нацыянальныя групы; да нямецкай групы належыць 69% насельніцтва, да французскай — 18% насельніцтва, да італьянскай — 9,3% і да групы рэта-раманш — 0,9% усяго насельніцтва; 1,8% насельніцтва гаворыць на розных іншых мовах. Можна сказаць, што Швейцарыя з'яўляецца краінай нацыянальных меншасцей. Самую вялікую частку насельніцтва складае насельніцтва, якое гаворыць на мясцовым нямецкім дыялекце. Жыхароў нямецкага паходжання налічваецца больш 3.700 тыс. чалавек. Самай малой часткай насельніцтва Швейцарыі з'яўляецца нацыянальная група рэта-раманш, якая налічвае ўсяго 50.000 чалавек.

Нягледзячы на ўсё гэта, у Швейцарыі не адчуваецца гегемоніі адной нацыі над другой і адной мовы над другой. У мясцовасцях, населеных кожнай з гэтых нацыянальнасцей, усе ўстановы, школы, паліцыя і г.д. працуюць выключна на роднай мове данай нацыянальнай групы. На роднай мове пішуцца таксама назвы вуліц у гарадах, назвы мясцовасцей, друкуюцца газеты, працуюць кінатэатры, чыгункі і г.д. Цэнтральнае радыё Швейцарыі вядзе перадачы на двух хвалях на нямецкай мове, на двух хвалях на французскай мове, на адной хвалі на італьянскай мове і на адной хвалі на мове рэта-раманш. Такім жа чынам размеркаваны праграмы тэлебачання. Гарадская сетка пабудавана так, што кожны грамадзянін можа слухаць перадачы на ўсіх мовах. Усе чатыры пералічаныя мовы з'яўляюцца ў Швейцарыі афіцыяльнымі мовамі, нягледзячы на тое, што нацыянальнасць рэта-раманш складае ўсяго 0,9% насельніцтва.

Нацыянальны даход у Швейцарыі на аднаго чалавека перавышае 2 тыс. долараў і стаіць на першым месцы сярод капіталістычных краін Заходняй Еўропы.

Швейцарыя не мае падземных рэсурсаў, але нягледзячы на гэта, захоўвае адзін з найвышэйшых узроўняў жыцця насельніцтва. Гэтыя поспехі гарантуе Швейцарыі экспарт вырабаў дакладнай механікі, якія прадукуюцца на многіх заводах краіны на базе імпартнай сыравіны, а таксама шырока распаўсюджаны турызм і даходы ад шматлікіх міжнародных арганізацый, маючых штаб-кватэры на тэрыторыі гэтай краіны. Значныя даходы мае Швейцарыя з вывазу капіталаў і банкавых аперацый.

Адна чвэрць тэрыторыі Швейцарыі пакрыта лясамі, а адна чвэрць — гэта ледавікі, скалы і азёры. Толькі палова тэрыторыі Швейцарыі прыдатна для насельніцтва. Больш паловы насельніцтва пражывае ў гарадах, налічваючых звыш 10 тысяч чалавек. З гэтых гарадоў найбольш буйныя гэта Цюрых — 437 тыс. жыхароў, Базель — 216 тыс. чалавек, Жэнева — 174 тыс. жахароў, Берн (федэральная сталіца) — 168 тыс. жыхароў і Лазана — 136 тыс. жыхароў.

Паводле веравызнання Швейцарыя дзеліцца на католікаў (46%) і пратэстантаў (53% насельніцтва). Аднак у Швейцарыі ёсць і іншыя групы веруючых, у прыватнасці ў Жэневе ёсць прыход рускай праваслаўнай царквы, дзе абрад, як і на Беласточчыне, вядзецца на славянскай мове.

Т. ГАЛЁНКА



*Берн. Сядзіба федэральных улад*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ЯШЧЭ РАЗ АБ ПАПРЫЦЫ

Сёння працягваем свой адказ на ліст пані Людмілы Ярашэвіч з Кляшчэляў, Гайнаўскага павета.

З папрыкі можна рабіць не толькі розныя салаты, але і смачныя вараныя патравы. Адной з найбольш распаўсюджаных патраў з'яўляецца папрыка, фаршыраваная мясам. Вельмі часта падрыхтоўваюць яе венгры, балгары, каўказцы і інш., адным словам, усе тыя, хто амаль штодзень носіць дахаты папрыку ў сетках, як мы, у горадзе, бульбу. Паспрабуйце зрабіць гэтую патраву і вы.

На 8 струкоў зялёнай папрыкі трэба ўзяць 1/4 кг свініны (павінна яна быць няжырная, найлепш падыходзіць для гэтага мяса з шынкі), 2 лыжкі рысу, адну цыбуліну, паўлыжачкі змеленай папрыкі, крыху солі, лыжку тлушчу і зялёную пятрушку.

Мяса неабходна прапусціць праз мясарубку, пасаліць яго і пасыпаць змеленай папрыкай, а пасля палажыць на разагрэты тлушч і смажыць на даволі вялікім агні, памешваючы, мінут 10. Пасля гэтага дадаць да мяса дробна нарэзаную цыбулю, усыпаць рыс і смажыць яшчэ некалькі мінут.

Ад абпаласканых струкоў папрыкі адрэзаць «пяткі» і выняць зярняты, начыніць струкі фаршам, палажыць іх у каструлю з разагрэтым тлушчам, падліць крыху вады, пасаліць і тушыць пад крышкай мінут 30—40. Падаваць з салатам з памідораў і цыбулі. Не забыцца пасыпаць фаршыраваную папрыку дробна нарэзанай зеленню пятрушкі.

У прыродзе заўсёды так бывае: не ўродзіць адно, дык кампенсіруе яго другое. У гэтым годзе, на жаль, не абрадзілі грыбы. Сухое было лета. Не будзе ў нас дасканалай закускі ў выглядзе марынаваных грыбоў. Дык добра, пані Людміла, што ўрадзіла ў вас папрыка і што вы вырашылі зрабіць яе на зіму.

Каб кампенсіраваць недахоп грыбоў у гэтым годзе, прапаную вам зрабіць на зіму марынаваную папрыку.

Папрыку трэба абмыць кіпячонай вадой, адрэзаць ад яе «пяткі», выняць насенне, злажыць па некалькі струкоў у слоікі — «вэкі». Воцатавую заправу падрыхтоўваем наступным спосабам. На 1 літр вады даем 250 г (адну шклянку) 10-працэнтнага воцату, 2 лыжкі солі, лыжак 6 цукру (можна больш або менш — хто як любіць), ну, а акрамя таго розныя прыправы: перац — гарошак, лаўровы ліст, гваздзіку. Воцатавую заправу трэба закіпяціць і астудзіць, а пасля заліць ёю папрыку ў слоіках (каб прынамсі сантыметры на 4 вада не даходзіла да берагоў слоіка). Берагі слоіка выцерці чыстай, вываранай сцірачкай або бумажнай салфеткай, палажыць на слоікі гумкі і закрыць іх крышкамі і пружынкамі. Слоікі паставіць у каструлькі з вадой (вада павінна даходзіць да 3/4 вышыні слоіка) і варыць, пакуль са слоікаў не будзе выходзіць сіпячая пара. Тады слоікі адразу вымаць і астуджваць. Трымаць іх у сухім, прахладным месцы.

Б. САПЯЛЬНЯК




Начны бой быў жорсткі. І ўсё ж партызаны знайшлі слабае звяно ў эсэсаўскім ланцугу і вырваліся з акружэння. Праўда, у лес прабіцца не ўдалося, давялося адыходзіць у стэпы. Спачатку хацелі дабрацца да Дняпроўскіх плаўняў, але мясцовасці ніхто не ведаў, карты не было — і ад гэтай задумы прыйшлося адмовіцца.

Ужо два тыдні блукаў па бяскрайніх украінскіх стэпах партызанскі атрад пад камандаваннем Георгія Сабко. Ні пра якія налёты або дыверсіі не магло быць і гутаркі: боепрыпасаў мала, ды і базы няма — сёння адна лагчына, заўтра другая. А днём наогул носа не выстаўлялі: чалавек за дзесяць кіламетраў відаць... Але аднойчы камандзір не вытрымаў:

— Не падабаецца мне, хлопцы, гэты паляўнічы! Два дні каля нас круціцца. Так і чакай, што па якога-небудзь зайца ў наш яр заскочыць.

— Які ён, к чорту, паляўнічы?! — абурыўся барадаты партызан. — Фашыст — ён і на паляванні фашыст! Страляе проста з машыны. Раненых жывёлін душыць коламі. Браканьер ён, калі на мове паляўнічых сказаць!

— Вось што, Мацвеіч... Вазьмі пару хлопцаў ды запрасі яго ў госці. Толькі ціха...

На першы погляд, немец паводзіў сябе зусім па-паляўнічаму. Ён нячутна пад'язджаў на грузавічку да нізін, паліў з абодвух ствалоў па кустах, палохаў зайцаў, курапатак і іншую жыўнасць, а потым ганяўся за імі па стэпе. Але часам ён рэзка тармазіў, выскокваў на верх кабіны і ўважліва аглядаў стэп у бінокль. Разлік быў просты: калі дзе-небудзь у акрузе ёсць партызаны, яны абавязкова пастараюцца здабыць «языка». А адзінокі паляўнічы ў гэтых адносінах — ідэальны аб'ект.

Цэлы тыдзень ён матляўся па стэпе, а трапіць у палон так і не ўдалося. Але немец быў цярплівы і кемлівы. Ён разумеў, што днём яго ніхто не кране. Партызаны таксама не дурні. За паляўнічым жа могуць назіраць, а партызаны не захочуць сябе выявіць. Таму ён пачаў ездзіць «на зоры», «на цягу» або наладжваў па начах гонкі за зайцамі, што траплялі ў святло аўтамабільных фараў.

Усё адбылося зусім не так, як ён чакаў. Калі паляўнічы спусціўся ў нізіну за адстрэленай курапаткай, яму тыцнулі ў жывот аўтамат, акуратненька забралі дубальтоўку і ціха сказалі:

— Хендэ хох!

Немец хуценька падняў рукі і, пакульгваючы на правую нагу, пайшоў па нізіне.

— Даставіў, — хмура сказаў Мацвеіч.

— Ага, дабегаўся фрыц! Зараз мы яго... Чорт, перакладчыка няма, — пачухаў патыліцу камандзір. — А я — з пятага на дзесятае...

Немец шырока ўсміхнуўся і на чысцейшай рускай мове сказаў:

— Навошта? Я размаўляю па-руску.

— Вась дык пірагі-і-і! — здзівіўся Мацвеіч.

— Адкуль вы ведаеце рускую? — запытаў Сабко.

— Гэта мая родная мова. Я вырас у Расіі.

— Ага, значыцца, здраднік! Рускі салдат перайшоў да немцаў!

— Зусім не. Я не рускі. Я немец. І не салдат, а афіцэр.

— Ты не круці! — ускочыў Сабко. — Здраднікаў расстрэльваюць на месцы! — Ты гэта ведаеш?

— Ведаю. Але я не здраднік. Я...

— Прозвішча, імя, званне! — крыкнуў Сабко.

— Старшы лейтэнант бранятанкавых войск шостай арміі Герман Крайс! — шчоўкнуў абцасамі немец.

— Трапіў у палон?

— Не.

— Перабег?

— Не.

Камандзір пачаў павольна наліваццa чырванню. Гэты выхалены немец яму яўна не падабаўся. Партызанам ужо не раз сустракаліся фашысцкія дэсантнікі ў форме чырвонаармейцаў або міліцыянераў. І дакументы ў іх былі ў парадку, і па-руску яны размаўлялі. А потым усё закончылася гібеллю цэлых атрадаў...

— Дазвольце сесці? — запытаў палонны. — У мяне нага баліць, — вінавата закончыў ён.

— Сядай! — злосна сказаў Сабко. А сам падумаў: «Зараз пачне плесці «праўдзівую» гісторыю пра адступленне, пра раненне... »

*(Працяг будзе)*



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## АНТОН САКОВІЧ

Антону Саковічу з Міхалова, Беластоцкага павета 65 гадоў. Зараз ён пенсіянер. Дагэтуль працаваў ён кіраўніком млына. Антона Саковіча ведаюць усе як актывіста БГКТ. У мінулым годзе ён быў выбраны старшынёю гэтай амаль 40-асабовай арганізацыі. Члены гуртка БГКТ у Міхалове заўсёды тэрмінова плацяць членскія ўзносы. Ды не гэта найважнейшае ў дзейнасці членаў міхалоўскага гуртка БГКТ. Арганізавалі яны драмгурток, які дзейнічае пад кіраўніцтвам інструктара Мікалая Баўтручука. Самадзейнікі ставілі п'есу Ю. Генюша «Вываражыла». Выступалі з ёю ў грамадзе і павятовым аглядзе. Члены БГКТ арганізавалі таксама танцавальныя вечарыны ў рамізе і ГОК-у. У апошні час БГКТ-оўцы намераны грамадскім чынам пакласці ходнікі на вуліцы Беластоцкай. Ініцыятарам чыну з'яўляецца перш за ўсё старшыня А. Саковіч. Варта адзначыць таксама, што А. Саковіч з'яўляецца членам БГКТ ад пачатку існавання таварыства і актыўным прапагандыстам «Нівы» і «Беларускага календара» ў сваім асяроддзі. Як вядома, зараз таварыства святкуе сваё 15-годдзе. Такі ж юбілей і ў жыцці міхалоўскага старшыні. З гэтай нагоды жадаем А. Саковічу самых лепшых поспехаў у грамадскай дзейнасці і ў асабістым жыцці.

*Тэкст і фота: (яц)*



## Ці ведаеце, што...

...у новым навучальным годзе на Гайнаўшчыне пачало вучыцца 11.340 дзяцей, у тым ліку найбольш у пачатковых школах — 9289. Першы раз у сваім жыцці парог школы пераступіць 885 першакласнікаў.

...у Бельскім павеце ў пачатковых школах навуку распачало 11385 вучняў, у тым ліку 1130 першакласнікаў. Навучаць будзе 577 настаўнікаў, з якіх 10 мае вышэйшую адукацыю, 389 — СН і 179 — сярэднюю педагагічную адукацыю. (яц)

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: У час вайны я быў вывезены на работу ў Нямеччыну. Пасля заканчэння вайны я працаваў у Францыі і вярнуўся ў Польшчу ў 1955 годзе. Тым часам жонка мая з вёскі пераехала ў Беласток, і я страціў з ёю сувязь. Вярнуўшыся дамоў, я даведаўся, што па прапанове жонкі суд прызнаў мяне памершым. Я чуў, што гэткая пастанова суда анулюе шлюб і хацеў ажаніцца нанава, аднак мне адмовілі ў рэгістрацыі новага шлюбу, тлумачачы, што папярэдні шлюб надалей абавязвае. Як у сапраўднасці прадстаўляецца гэта справа?

АДКАЗ: У выпадку прызнання судом смерці мужа або жонкі мяркуецца, што шлюбнае жыццё спынілася з днём, які азначаны як дзень смерці. Гэта мае тое значэнне, што муж або жонка, па прапанове якіх суд выдаў пастанову, не патрабуе ніякіх іншых доказаў і можа ўзяць шлюб з іншым. Аднак у выпадку, калі муж або жонка ведалі, што ў сапраўднасці той, каго суд прызнаў за памершага, жыве, новы шлюб быў бы няважны.

З гэтага вынікае, што шлюб абавязвае і пасля прызнання мужа або жонкі за памершага.

Аднак калі б жонка ваша пасля прызнання вас за памершага і пакуль даведалася, што вы жывеце, выйшла замуж, вы таксама былі б вольным і маглі б ажаніцца. Калі жонка ваша не выйшла замуж, то вам не прыслугоўвае права ссылацца на тое, што вас прызналі за памершага.

## ...ЯК СНАПЫ

Закараніўся ў нашых вёсках, у тым ліку і ў Плёсках, дрэнны звычай. Пасля заканчэння малацьбы кожны гаспадар частуе ўсіх тых, хто дапамагаў яму ў гэтай цяжкай працы. Як правіла, пачастунак заўсёды абавязкова з гарэлкай. За дзень малацільны агрэгат змалоціць збожжа некалькім гаспадарам. І так, пасля другога пачастунку малацільшчыкі ўжо такія п'яныя, што ў час малацьбы ўжо ў трэцяга гаспадара могуць замест снапа трапіць у машыну.

У чацвертага гаспадара малаціць ужо ніхто не здольны. Пакуль што абыходзіцца без няшчасных выпадкаў. Але няма ніякай гарантыі, што заўсёды так будзе, што не трапіць замест снапа ў машыну чалавек.

*Чытач з Плёсак*

## РАМОНТЫ ШКОЛ

У гэтым годзе ў Сямяціцкім павеце дробныя рамонты праведзены ў 52 школах (на агульную колькасць 72). Рамонты гэтыя праводзіліся ў час летніх канікул і ўсе былі закончаны перад пачаткам навучальнага года. Коштам 1 млн. 100 тыс. зл. у школах адрамантаваны падлогі, кафельныя печы, дахі, аднаўлены парты і столікі, а таксама пабудаваны новыя прышкольныя агарожы.

Капітальныя рамонты праводзяцца ў гэтым годзе ў школах у Астражанах і Путковіцах. Выконвае іх спулдзельня з Семяціч, якая мела закончыць рамонты гэтых школ яшчэ перад 1 верасня. У выніку аднак маруднага тэмпу работ падчас летніх канікул і нядбайнасці яны яшчэ не закончыліся і невядома, ці будуць закончаны ў канцы гэтага месяца. (яц)




*Дарагое Сэрцайка!*

Я запрошана на вяселле. Гэта мая сяброўка выходзіць замуж. Хоць яна дзяўчына з вёскі, але цяпер працуе ў горадзе і там мае адбыцца вяселле. Вядома, хацела б я быць мадней апранута, бо гэта ж не на вёсцы (хоць і тут ужо апранаюцца амаль так модна, як і ў горадзе), а ў павятовым горадзе. Не хацела б «выкідаць» за многа грошай у сувязі з гэтым вяселлем, але не хачу выглядаць горш ад іншых, там жа будуць таксама хлопцы. А якая ж дзяўчына не хацела б падабацца? Хоць я і зграбная, але сукенка таксама мусіць быць модная.

Маю я сукенку з карункі (загранічная), але не модна пашыта. Карунка прыгожая, гарбацянага колеру. Але што з ёю зрабіць, як упрыгожыць сукенку, каб яна стала і маднейшай, і іншай чым была, бо я ўжо пару год як яе сабе купіла. Не хацела б, каб бачылі мяне ўсё ў адным. А да твару яе колер вельмі ж мне падыходзіць. Яна шырокая і з доўгімі рукавамі.

*Аня з Беласточчыны*

*Аня!* Хутка даем табе параду і думаем, што яшчэ паспееш яе выкарыстаць. Карунка, — гэта матэрыял такі багаты, што не патрабуе ніякіх ужо прыбранняў. Паколькі твая сукенка ўжо і не вельмі новая, і не модная, дык раім табе яе зусім папароць і пашыць з яе прыгожую новую блузку. Цяпер вельмі модныя блузкі з карункі без ніякага споду і без надзявання на сябе кашуль. Пад яе надзяваецца толькі зразумела станік аднолькавага, або вельмі падобнага колеру. Так, каб не было ніякага кантрасту. Блузка шыецца з доўгімі вузкімі рукавамі, пад шыяй з модным вушатым каўнярам або са стойкай, (у залежнасці, як каму да твару). Блузка расшпіляецца наперадзе і з прыгожымі малымі гузічкамі. Да такой блузкі вельмі добра пасуе доўгая спадніца, пашытая па цяперашняй модзе: вузкая, (або пашыраная трохі ўнізе), з глыбокім распоркам або спераду, або збоку. Да такой блузкі можна таксама пашыць (а мо і маеш) нагавіцы. Аднак мне здаецца, што лепш будзе, калі ты пашыеш да гэтай блузкі спадніцу. У такім строі напэўна будзеш выглядаць прыгожа.

*Прыемнай забавы!*

*Сэрцайка*

## ПРА ДОКТАРА ПУХНАРЭВІЧА

На наш артыкул пра доктара Яраслава Пухнарэвіча з Гайнаўкі, змешчаны ў адным з апошніх нумараў «Нівы», прыйшоў у рэдакцыю чытач з Беластока з пахвалой, што пра доктара напісалі, але і з закідам, што далі няпоўны вобраз яго і яго заслуг.

Наш чытач сказаў: «Доктар Пухнарэвіч вядомы і заслужаны лекар. Вельмі заслужаны для Гайнаўскай зямлі. Калі ён, пасля працы ў Нарве, перайшоў да працы ў Гайнаўку, быў яшчэ маладым чалавекам. Разам з ім тады працавалі др Доўгірд і др Гедрайць. О, як тады Гайнаўка зашумела! Слава яе лекараў пайшла шырока. А вы ў артыкуле толькі біяграфію доктара далі».

Высняем чытачу і ўсім, хто доктара Пухнарэвіча ведае, што пра заслугі яго як лекара і грамадскага дзеяча запланаваны ў нас асобны артыкул у будучым. За водгук аднак на артыкул і ўвагі сардэчна дзякуем. (вл)

## РАДНЫЯ — ВЫБАРШЧЫКІ



*Дзіцячая пляцоўка пры гайнаўскіх «блёках».*
*фота: В. Бура.*

Ад выбарчай кампаніі адбылося 86 сустрэч радных гайнаўскай рады з выбаршчыкамі. У гэтых сустрэчах удзельнічала звыш 8000 выбаршчыкаў. Кожны дваццаты ўдзельнік выступаў у дыскусіі. Значыць, сустрэчы былі жывыя. Аднак колькасць выступаючых не найважнейшы крытэрый у ацэнцы сустрэч. Важнейшай справай з'яўляецца ўзровень і змест выступленняў. Пераканаўчым паказнікам уплыву грамадства на фарміраванне гаспадарчых, культурных і грамадскіх планаў рады з'яўляецца ажыццяўленне выбаршчыкаў інтэрпеляцыі і актыўнасць радных у сесіях і камісіях радаў, а таксама афармленне спраў выбаршчыкаў у прэзідыуме і аддзелах рады. Да канца чэрвеня 1971 г. радныя атрымалі ад выбаршчыкаў 46 прапаноў. 23 з іх ужо рэалізаваны, 8 прадбачана рэалізаваць у 1971—1972 гадах, а 8 пасля 1972 года. Толькі 3 прапановы былі адкінуты (немагчымыя або не мэтазгодныя).

Выбаршчыкі ацэньваюць амаль усе галіны жыцця. Звярну ўвагу на найбольш істотныя справы ў апошні час. Пры агульнай станоўчай ацэнцы дасягненняў у развіцці горада, выбаршчыкі звяртаюць усё большую ўвагу на эканамічны бок гаспадаркі, на рацыянальнае выдаткаванне сродкаў і якасць мерапрыемстваў. Маюць рацыю тыя, якія лічаць, што будаваць трэба не толькі больш, але і танней. Усё больш выбаршчыкаў таксама падкрэслівае неабходнасць змены метадаў планавання новых кварталаў: гандлёвая сетка, цэнтры асветы, культуры і аховы здароўя павінны развівацца прапарцыянальна да развіцця жыллёвага будаўніцтва і росту лічбы жыхароў.

Дасягненні новага будаўніцтва не могуць засланіць факту, што звыш 9 тысяч грамадзян Гайнаўкі жыве ў старым будаўніцтве. Звыш 70% жыхароў горада не ведае яшчэ выгад вадаправоду, 68% жыхароў жыве ў дамах, якія не далучаны да каналізацыйнай сеткі. Пазбягаючы нерэальных абавязацельстваў, нашым абавязкам з'яўляецца слухаць крытычныя галасы выбаршчыкаў, а таксама тлумачыць ім, што іх прапановы будуць выконвацца крок за крокам, па меры нашых магчымасцей.

Усе прапановы выбаршчыкаў, а таксама іх крытычныя заўвагі, пратакулююцца, а затым уважна разглядаюцца. Бо для радных няма спраў больш важных і менш важных, калі датычаць яны грамадства, грамадзян.

*Кастусь Ляшчынскі*
*старшыня гарадской рады нарадовай у Гайнаўцы*



*Гайнаўскія «блёкі»* *Фота: Я. Цялушэцкі*

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Нараўка**
„Pułapka" (polski), „Wahadło" (polski), 6—10.

**Нарва**
„Strachy zamku Spessart" (NRD), „Czarne skrzydła" (polski), 6—10.

**Дубічы Царкоўныя**
„Drugi człowiek" (polski), „Noc poślubna" (polski), 6—10.

**Арэшкава**
„Alba Regia" (węgierski), „Dziki pies Dingo" (radz.), 9—10.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Dotknięcie nocy" (polski), „Jeśli dziś wtorek to jesteśmy w Belgii" (duński), 6—10.

**Орля**
„Cierpienia młodego Bohaczka" (czeski), „Krajobraz po bitwie" (polski), 6—10.

**Райск**
„Rachunek sumienia" (polski), „Samolot odlatuje o 9-tej" (radz.), 6—10.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Trzy klucze" (jugosł.), 5—6. „Przeciw Wranglowi" (radz.), 7—8. „Ostatni Mohikanin" (rumuński), 9—10.

**Янаў**
„Pogoń za Adamem" (polski), 6—10.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Gorzkie życie" (włoski), 5—6. „Spojrzenie na wrzesień" (polski), 7—8. „Tajemnice Kaliakry" (bułg.), 9—10.

**Мілейчыцы**
„Rachunek sumienia" (polski), 5—6. „Próba terroru" (USA), 7—8. „Wezwanie" (polski), 9—10.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Jankes" (duński), „Dr Crippen przed sądem" (ang.), 6—10.

**Новы Двор**
„Lunatycy" (polski), „Kto wierzy w bociany" (polski), 6—10.

**Ці Вы ўжо з'яўляецеся членамі БГКТ?**

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

